Opłata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару 10 гр.

# РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 2 разы ў месяц.

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Прыймо інтэрэсантаў: | Цана падпіскі з дастаўкай поштай: |
| --- | --- | --- |
| Езуіцкая вул. 6, кв. 2. | у Сэкратар'яце ТБА—у будні ад 9—12 г.<br>у Рэдакцыі „ ад 12—14 г. | За год 2 зл. 50 гр.; за паўгоду—1 зл. 35 гр.<br>за 3 месяцы — 75 грош.;<br>за 1 месяц — 30 грош. |

№ 16 (104) | Вільня, 15-га лістапада 1936 г. | Год 4-ты.

## Аб зімовай помачы безработным.

Сусьветная вайна пакінула па сабе вялікія сьляды і то ў розных галінах жыцьця.

Адным з яе найцяжэйшых пасьледстваў зьяўляецца мала знаны перад вайной узрост безрабоцьця на ўсім сьвеце. Калі перад вайной якраз праца шукала людзей і кожны жадаючы раней ці пазьней яе знаходзіў, дык цяпер натаўпы безработных людзей шукаюць працы і не заўсёды яе знаходзяць.

Акром таго апрача масаў безработных існуюць цэлыя арміі безработных напалавіну, гэта значыць такія, якія працуюць ня поўнасьцю, і таму, зразумела, не зарабляюць столькі, каб задаволіць свае найнеабходнейшыя патрэбы.

Асабліва шмат такіх поўбезработных на вёсцы, дзе ёсьць шмат лішніх рабочых рук, якія, праўда, памагаюць у працы, але без якіх вясковая гаспадарка магла б без усялякай шкоды абыйсьціся. Некаторыя польскія статыстыкі налічваюць такіх лішніх рабочых рук на вёсцы ў Польшчы каля 9-ёх мільёнаў чалавек. Зразумела, што пры такім палажэньні вёска ўсьцяж бяднее, колькасьць безработных павялічваецца і гэта якраз зьмяншае агульны дабрабыт усяе Дзяржавы.

Вось чаму змаганьне з безрабоцьцем вядуць у першую чаргу дзяржаўныя дзеячы пры дапамозе ўсяго грамадзянства.

Адным з актаў такога змаганьня з безрабоцьцем зьяўляецца пачатая з ініцыятывы дзяржаўных кругоў зборка спэцыяльных грашовых сумаў на тое, каб даць магчымасьць плаціць за працу безработным і ў зімку, а таксама даваць падмогі тым безработным, якія ня знойдуць працы. Карацей кажучы дзяржаўныя дзеячы ў гэтым годзе загадзя затрымаліся над тым, каб прыйсьці з помачай масам безработным у найцяжэйшую пару году — ўзімку. Да гэнае ініцыятывы прыхільна аднесьліся шырэйшыя слаі грамадзянства, добра разумеючы, што змаганьне з безрабоцьцем не павінна быць толькі вынікам спачуцьця да цяжкога лёсу безработных, але абавязкам усяго грамадзянства дзеля свайго-ж уласнага дабра. Дзякуючы такой пастаноўцы справы можна спадзявацца, што сёлетняя зіма будзе шмат лягчэйшай для безработных, перадусім гарадзкіх, бо-ж яны будуць мець працу і змогуць пeратрываць зіму.

Але адначасна з клопатамі аб долі гарадзкіх безработных ня можна забывацца і аб безработных і поўбезработных у вёсцы, мястэчках ды меншых гарадох. Праўда, пражыцьцё на правінцыі каштуе меней, але пры адсутнасьці хоць якога-небудзь заработку людзям усё роўна і там немагчыма пражыць. Вось чаму трэба зараз-жа падумаць і аб вясковых безработных, якіх шмат больш, чымся гарадзкіх. Доля вясковых безработных і поўбезработных асабліва цяжкая ў тых мясцох, дзе ў сёлетнім годзе здарыўся неўраджай, ці то з прычыны вялікае сушы ўлетку, ці то з прычыны навальніцаў, зьнішчыўшых збожжа на палёх. Да такіх мясьцінаў, прыкладам, можна залічыць паўночныя паветы віленшчыны, як дзісьненскі, пастаўскі, браслаўскі, а таксама некаторыя паветы навагрудчыны, як стаўпецкі, баранавіцкі, частка валожынскага, і Палесьсе. У гэных мясцовасьцях таксама трэба арганізаваць пэўныя работы, пры якіх знойдуць працу ня маючыя ўжо цяпер з чаго жыць мясцовыя жыхары. Там, дзе арганізаваньня такіх работ немагчыма, трэба ўжо цяпер прыйсьці з помачай найбяднейшым тамашнім жыхаром. Гэтага вымагае і спачуцьцё да цяжкое долі бедных людзей. а перадусім агульны інтэрас.

Маючы ўсё вышэйсказанае на ўвеце, ня можна памінуць яшчэ аднаго мамэнту ў акцыі помачы безработным. Вось-жа да працы ў помачы безработным павінны быць прыцягнены прадстаўнікі мясцовага грамадзянства, якія цесна зьвязаны са сваёй мясцовасьцяй, і якія добра ведаюць аб тым, дзе гэная помач патрэбна ў першую чаргу. На нашых землях да акцыі помачы безработным павінны быць прыцягнены прадстаўнікі беларускага грамадзянства, якія возьмуцца з добрай воляй за гэную працу і пэўне-ж прынясуць не малую карысьць для самое справы, спрычыніўшыся да таго, каб добрая думка была належна зрэалізавана.

## Генэрал Э. Рыдз-Сьміглы Маршалкам Польшчы.

10 гэтага лістапада, напярэдадні 18-х угодкаў незалежнасьці Польскае Рэспублікі. на адным з пляцаў Каралеўскага замку ў Варшаве адбылося ўрачыстае даручэньне маршалкоўскае булавы Генэральнаму інспэктару арміі ген. Рыдз-Сьмігламу. Урачыстасьць пачалася а 2 гадз. 45 мін. На пастаўленых у падворку Замку крэслах занялі месцы прадстаўнікі ўраду, Сойму і Сэнату, духавенства ўсіх вызнаньняў, генэралітэту і дыплёматычнага корпусу. Вялікую групу складалі сабраныя афіцэры. За мурамі Замку, па дарозе праезду ген. Рыдз-Сьміглага, ад самых Уяздоўскіх Алеяў, у гэты час стаялі натаўпы народу, вітаўшыя новага маршалка. А гадзіне 3-й пачулася каманда. Музыка заіграла гімн. З пакояў сваіх выйшаў Пан Прэзыдэнт Рэспублікі праф. І. Мосьціцкі. За Прэзыдэнтам ішоў Рыдз-Сьміглы. Падыйшоўшы да століка, на якім ляжала маршалкоўская булава, п. Прэзыдэнт зьвярнуўся да ген. Рыдз-Сьміглага з прамоваю, у якой адзначыў сымболічнае значэньне маршалкоўскае булавы, як знаку найвышэйшае годнасьці ў арміі і зазначыў, што шлях да гэтае годнасьці пралажаны самым Рыдзам-Сьміглым сваімі ўласнымі трудамі, будучы супрацоўнікам Вялікага Маршалка Язэпа Пільсудскага.

Пасьля гэтага п. Прэзыдэнт Рэспублікі даручыў Маршалку Э. Рыдз-Сьмігламу маршалкоўскую булаву. Войска ўзяло зброю на гонар. Загрымеў нацыянальны польскі гімн, выкананы аркестраю, а з боку Віслы салют гарматаў.

Прыняўшы павіншаваньне ад п. Прэзыдэнта, маршалак Рыдз-Сьміглы заявіў у сваёй прамове, што ён крануты глыбока і перапоўнены пачуцьцём глыбокае падзякі за наданьне яму годнасьці маршалка.

„Дзень гэты, — сказаў, паміж іншым, Маршалак Рыдз-Сьміглы,— я запішу на тэй бачыне кнігі майго жыцьця, на якой значыцца: доўг, які я павінен аддаць. Я прашу верыць у чысьціню маіх унутраных пабудак і намераў".

Пасьля гэтага павіншавалі Маршалка кардынал Глёнд, прадстаўнікі ўраду, Сэнату, Сойму, генэралітэту, дыплёматычнага корпусу і вайсковых аташэ.

А гадзіне 3 мін. 20 Маршалак Рыдз-Сьміглы пакінуў Замак. Натаўпы народу сустракалі новага Маршалка клічамі : „Хай жыве Маршалак!"

Назаўтра, у ўрачысты дзень сьвяткаваньня 18-х угодкаў польскай незалежнасьці, шэф вайсковае канцэлярыі п. Прэзыдэнта Рэспублікі даручыў Маршалку Рыдз-Сьмігламу найвышэйшую адзнаку— ордэн Белага Арла з уласнаручным пісьмом п. Прэзыдэнта.

Міністрам Вайсковых Справаў Польшчы генэралам Каспшыцкім даручана Маршалку Рыдз-Сьмігламу ад імя ўсяе арміі старая каштоўная шабля XVII стагодзьдзя. Похва шаблі пакрыта каштоўнымі ўпрыгожаньнямі вялікае мастацкае работы.

У дзень „Польскай Незалежнасьці" — 11-га лістапада, пасьля багаслужэньняў у сьвятынях усіх веравызнаньняў, адбыўся ў Варшаве вялікі парад, прыняты п. Прэзыдэнтам Рэспублікі і Маршалкам Рыдз-Сьміглым. Вайсковыя аддзелы ўсіх родаў зброі прайшлі цэрамоніяльным маршам па вуліцах: Уяздоўскіх Алеяў, Новага Сьвету і Кракаўскага Прадмесьця. Мінаючы палац Бэльвэдэр вайсковыя аддзелы ішлі са спушчанымі штандарамі. На пляцы „Роздрожэ", на спэцыяльнай трыбуне быў у часе параду п. Прэзыдэнт Рэспублікі; тут-жа Маршалак Рыдз-Сьміглы прымаў парад, салютуючы маршалкоўскаю булавою.

Усе вуліцы, па якіх праходзіла войска, былі запоўнены шчыльнаю масаю народу. На сьвяткаваньне ў Варшаву прыбыло шмат народу з правінцыі. Напярэдадні прыбыло ў Варшаву 13 популярных цягнікоў. Прабег сьвяткаваньня перадаваўся праз радыё.

## Шаснаццатыя ўгодкі Слуцкага Паўстаньня.

У лістападзе месяцы 1920 г. Польскія Войскі на аснове польска-бальшавіцкага дагавору муселі пакінуць занятыя імі абшары Случчыны і адступіць за раку Лань. Вестка аб такім вырашэньні справы зрабіла вялікае ўражаньне ў Случчыне. Жыхарства хутка пачало арганізоўвацца і канчальна рашыла пераняць уладу на тых абшарах, якія ў бліжэйшай будучыне Польскае Войска мела пакінуць. Для вырашэньня і афармленьня гэтае справы на 14-15 лістапада таго-ж году ў Слуцку быў скліканы зьезд прадстаўнікоў павету і гораду. Зьезд аднагалосна выказаў, што жыхарства Случчыны больш ужо ніякае чужацкае ўлады над сабою ня прызнае і будзе лічыць законным толькі той урад, які выбярэ і паставіць сам Беларускі Народ. Апрача таго, на зьездзе была выбрана Рада Случчыны, якой і дадзена была ўся паўната ўлады.

Рада Случчыны пасьля зьезду адразу-ж прыступіла да арганізацыі абароны свае тэрыторыі. З гэтай мэтаю ёю быў пасланы да Цэнтральнага Савецкага Ураду пратэст, у якім Рада дамагалася, каб бальшавікі ня ўводзілі савецкіх войскаў на тыя тэрэны Случчыны, якія будуць зволькены польскай арміяй. Свае дамаганьні Рада апірала на волі жыхарства Случчыны, выяўленай на зьездзе 14-15 лістапада і ў Акце 25 сакавіка 1918 г., якім Беларусь абвяшчалася вольнай і Незалежнай Рэспублікай у яе этнаграфічных

